# Ніва

ТЫДНЁВІК ГПБГКТ

№ 53 (879) ГОД XVII БЕЛАСТОК 31 СНЕЖНЯ 1972 г. ЦАНА 60 гр.














Пра Маскву можна гаварыць па-рознаму. 825 гадоў з гэтым словам былі звязаны многія, часта вельмі важныя падзеі. Калі глядзім на помнікі старыны, перад намі стаіць яна як збіральніца рускіх зямель, адбіваўшая многія набегі. Калі перакінемся ў 1812 год, перад намі Масква ў дыму вялікага пажара «французам аддана», каб навечна пагасіць «аўстэрліцкае сонца» Напалеона Банапарта. Масква 1941 года — гэта горад барацьбы, горад, які не прапусціў праз свае рубяжы браніраваныя полчышчы Гітлера.

Урэшце, Масква сучасная. Кожны чалавек, прыязджаючы ў Маскву, абавязкова мусіць пабываць на Краснай плошчы. Столькі тут розных людзей, што адразу адчуеш: Масква — сталіца шматнацыянальнай дзяржавы.

Якая ж будучыня гэтага многамільённага горада? Якія планы далейшага развіцця? Што будзе ў далейшым з так званай старой Масквой і з жылымі ква-




тэрамі? Гэта толькі некаторыя пытанні, з якімі я звярнуўся ад імя нашых чытачоў да інжынера Р. Каверына, намесніка дырэктара Галоўнага ведамства планавання і архітэктуры Масквы.

## ГАРАДЫ — СПУТНІКІ

Маскоўскія архітэктары, навучаныя заганамі вялікіх еўрапейскіх і амерыканскіх гарадоў, якія развіваліся без ніякага кантролю, апрацоўваючы план разбудовы горада, выбралі канцэпцыю так званага спутнікавага развіцця. На тэрыторыі 50 кіламетраў вакол сталіцы паўстаюць гарады, прадбачаныя на 1 мільён жыхароў кожны. Як бы асновай гэтых гарадоў-спутнікаў будуць новыя заводы і навуковыя ўстановы, звязаныя з акрэсленай спецыялізацыяй. Перш за ўсё будзе тут развівацца электроніка і іншая прамысловасць, якая вымагаць будзе думкі і высокай спецыялізацыі, а не сыравіны.

Усе вялікія гарады балюча адчуваюць недахоп зелені. Масква таксама не мае яе замнога. Але затое падмаскоўе пакрыта цудоўнымі лясамі. Адсюль гене-

(Працяг на стар. 6)

## БГКТ ХРОНІКА

■ 9 снежня наш літаратар Сакрат Яновіч правёў аўтарскую сустрэчу ў гданьскім аддзеле БГКТ. Чытаў ён свае творы і адказваў на шматлікія пытанні прысутных.

■ 14 снежня старшыня беластоцкага павятовага аддзела Я. Цялушэцкі і інструктар Г. Іванюк наведалі вёску Бялявічы і прысутнічалі на сходзе жыхароў вёскі, які адбыўся пасля савецкага фільма, прывезенага прадстаўніком ГП Я. Макарам. Старшыня гуртка (а гурток налічвае 42 асобы) П. Госцік у сваім выступленні закрануў пытанні статутовай дзейнасці гуртка. Між іншым, гаварыў аб аплочванні членскіх складчын і аб патрэбе існавання ў вёсцы мастацкага калектыву. У. Дудзіка — скарбніка гуртка сход абавязаў заняцца складчынамі, а працаўнік мясцовага клуба І. Кахановіч абяцала актыўную дапамогу ў арганізацыі драмгуртка. Варта адзначыць, што ў два дні пасля сходу скарбнік гуртка прывёз у аддзел складчыны ад усіх членаў гуртка за 1972 год.

■ На супольным сходзе гуртоў БГКТ і ЗМВ у Страшаве 16.XII. (да яго належаць тыя самыя члены і з тых самых асоб складаюцца праўленні гуртоў) была падсумавана супольная дзейнасць двух арганізацый. Прыбыўшая на сход інструктар аддзела Г. Іванюк пазнаёміла ўсіх са статутам БГКТ, пасля чаго падпісалі членскія дэкларацыі БГКТ 7 новых членаў. Гурток налічвае цяпер 32 асобы. Затым прысутныя выбралі новае праўленне ў наступным складзе: З. Лебядзінская — старшыня, М. Пятэльская — сакратар і Р. Суліма — скарбнік.

Пасля арганізацыйных спраў удзельнікі сходу пастанавілі ўтварыць драмгурток і тут жа на сходзе былі прыдзелены паасобныя ролі п'есы С. Яновіча «Люцынка-інжынерыха».

■ 16 снежня пленарнае пасяджэнне праўлення гданьскага аддзела было прысвечана заданням у святле VII з'езду БГКТ. Старшыня аддзела М. Мацкевіч і сакратар А. Красько прадставілі напрамкі працы аддзела на 1973 год. Шмат увагі прысвяціў пленум прысутнасці ўдзельнікаў харавога калектыву на рэпетыцыях, а таксама дзейнасці клуба, у якім усе мерапрыемствы павінны адбывацца згодна з зацверджаным графікам. Галоўнае праўленне на пленуме прадстаўлялі В. Філіпюк і Г. Мялешка.

■ 17 снежня адбыўся ў памяшканні ГП семінар літаратурнага аб'яднання «Белавежа». Старшыня аб'яднання А. Баршчэўскі выступіў на ім з цікавым дакладам аб жыцці і творчасці вялікага беларускага пісьменніка Я. Коласа, 90-ая гадавіна з дня нараджэння якога шырока адзначалася Беларускім таварыствам. Затым С. Яновіч і У. Гайдук чыталі свае новыя творы, змест якіх абмяркоўваўся ўдзельнікамі літаратурнага семінара.

■ Пленарнае пасяджэнне праўлення сямяціцкага аддзела (адбылося 17.XII.) абмеркавала заданні, вынікаючыя з пастаноў VII з'езду БГКТ. На гэтую тэму выступіў з дакладам старшыня аддзела А. Мартыновіч.

■ У Вілянове 17 снежня, а ў Клюковічах 18 снежня перад дэманстрацыяй савецкага фільма «Всадники революции», сакратар сямяціцкага аддзела М. Вішанка выступаў з дакладам на тэму 50-ай гадавіны СССР.

■ Гурток БГКТ у Мілейчыцах 18 снежня арганізаваў у мясцовым клубе ўрачысты вечар, прысвечаны 50-ай гадавіне ўтварэння СССР. З дакладам выступіў член прэзідыума сямяціцкага аддзела С. Крэйза. (мх)

# ◇Падзеі ◇ Здарэнні ◇ Факты ◇ Каментарыі ◇ Весткі ◇



## СВЕТ

### ЗАЛАТЫ ЮБІЛЕЙ

21 і 22 снежня т.г. адбылося супольнае пасяджэнне ЦК КПСС, Вярхоўных Саветаў СССР і РСФСР. Урачыстае пасяджэнне было прысвечана 50-годдзю паўстання Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік. З дакладам на ўрачыстым пасяджэнні выступіў генеральны сакратар ЦК КПСС Л. Брэжнеў.

Ніжэй падаем некаторыя вытрымкі з даклада, якія датычаць міжнароднай абстаноўкі.

*В'етнамская вайна*

Л. Брэжнеў справу в'етнамскай вайны высунуў на першае месца сярод найважнейшых спраў. Сказаў ён: «Зараз свет стаў сведкам новых злачынстваў імперыялізму ЗША ў В'етнаме. Злучаныя Штаты не толькі штучна замаруджваюць падпісанне пагаднення адносна спынення вайны... але гэтымі днямі аднавілі яны бамбардзіроўкі гарадоў і мініраванне ДРВ. На ўрад ЗША падае цяжкая адказнасць за гэтыя варварскія дзеянні. СССР так, як і ўсе міралюбівыя дзяржавы, усе народы, рашуча і гнеўна асуджае гэтыя акты агрэсіі».

*Адносіны з Пекінам*

«Мінула ўжо больш 10 год з таго часу, калі кіраўнікі Кітайскай Народнай Рэспублікі пачалі весці палітыку барацьбы з СССР, а фактычна з цэлай сацыялістычнай супольнасцю, якую надалей лічаць як асноўную перашкоду на дарозе да рэалізацыі вялікадзяржаўных задумак...

Па сутнасці адзіным крытэрыем, які зараз акрэслівае адносіны кітайскіх кіраўнікоў да якой-небудзь важнейшай міжнароднай праблемы, з'яўляецца імкненне да таго, каб як найболып шкодзіць Савецкаму Саюзу і інтарэсам сацыялістычнай супольнасці.

Што можна сказаць пра такую палітыку?

Лічым, што яна супярэчыць суадносінам між сацыялістычнымі краінамі, яна цэліць не толькі ў інтарэсы савецкага народа, але і кітайскага. У інтарэсы сусветнага сацыялізму, антыімперыялістычнай вызваленчай барацьбы, ў інтарэсы міру і бяспекі народаў».

*На еўрапейскім кантыненце*

Л. Брэжнеў падкрэсліў пазітыўныя змены, якія ў апошнім часе адбыліся ў Еўропе. Гэта рэалістычная палітыка Францыі, рэалістычная замежная палітыка канцлера ФРГ Бранта, падпісанне дагавораў паміж СССР і ФРГ, а таксама паміж Польшчай і ФРГ, пагадненне ў справе Заходняга Берліна, дагавор аб падставах суадносін паміж ГДР і ФРГ, канчатковы пералом блакады ГДР — «усё гэта не з'яўляецца чыйнебудзь аднабаковай перамогай, але вялікай перамогай рассудку і рэалізму ў міжнародных суадносінах».

### З ПРАМОВЫ Э. ГЕРКА

«Польскі народ мае асаблівыя прычыны, каб 50-ую гадавіну паўстання СССР святкаваць як сардэчна блізкае, інтэрнацыянальнае свята. З Савецкім Саюзам спалучаюць Народную Польшчу ўсе грамадскія, нацыянальныя і дзяржаўныя праўды. Саюз з Краінай Саветаў вырашыў аб вызваленні і адраджэнні нашай дзяржавы ў новых граніцах. Брацкая дружба і сціслае супрацоўніцтва з СССР адкрылі перад Польшчай новыя перспектывы сацыялістычнага развіцця». (ак)



## БССР

### ЮБІЛЕЙНЫЯ ГРАМАТЫ

Цэнтральны камітэт КП Беларусі, Прэзідыум Вярхоўнага Савета, Савет Міністраў Беларускай ССР і Беларускі рэспубліканскі савет прафсаюзаў за поспехі, дасягнутыя ў рэспубліканскім сацыялістычным спаборніцтве ў гонар 50-годдзя ўтварэння Саюза ССР, узнагародзілі юбілейнымі ганаровымі граматамі вялікую групу калектываў прадпрыемстваў, арганізацый, саўгасаў і калгасаў. Сярод адзначаных знаходзяцца калектывы Гомельскай абласной бібліятэкі імя У. І. Леніна, Гродзенскага абласнога драматычнага тэатра, Жлобінскай фабрыкі мастацкай інкрустацыі і выдавецтва «Беларусь».

### НАВУКОВАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ

Абласны камітэт КПБ у Брэсце наладзіў навукова-тэарэтычную канферэнцыю, прысвечаную 50-годдзю ўтварэння СССР. З дакладамі аб мацнеючых сувязях братніх рэспублік выступалі прадстаўнікі Брэстчыны, Арлоўшчыны і Валыншчыны.

У канферэнцыі прыняла ўдзел дэлегацыя Люблінскага ваяводства. Яе прадстаўнікі гаварылі аб польска-савецкай дружбе і прыгранічным супрацоўніцтве Люблінскага ваяводства і Брэсцкай вобласці.

### ГОСЦІ З АФРЫКІ І АЗІІ

У Беларусі пабывалі прафсаюзныя дэлегацыі з Алжырскай Народнай Дэмакратычнай Рэспублікі, Гвінейскай Рэспублікі, Арабскай Рэспублікі Егіпет, Іракскай Рэспублікі, Народнай Рэспублікі Конга, Народнай Дэмакратычнай Рэспублікі Йемен, Сірыйскай Арабскай Рэспублікі, Дагамея, Танзаніі і Нігерыі. Госці пазнаёміліся з выдатнымі мясцінамі Мінска, наведалі Дом-музей I з'езду РСДРП. На плошчы Перамогі яны ўсклалі кветкі ля помніка-абеліска воінам Савецкай Арміі і партызанам Беларусі. Затым зрабілі паездку да Мемарыяльнага комплексу Хатынь і пабывалі на Кургане Славы. Зарубежныя прафсаюзныя дзеячы правялі сяброўскія сустрэчы з кіраўніцтвам і актывам прафсаюзаў Беларусі і работнікамі Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Прыехалі яны ў Савецкі Саюз у сувязі са святкаваннем 50-годдзя СССР.

### ЦЫРК

На юбілейныя свята жыхары горада Сож у Гомельскай вобласці атрымалі каштоўны падарунак: новы цырк. На новай арэне ўжо пачаліся выступленні калектыву беларускага цырка пад кіраўніцтвам Юрыя Авер'іна. Першае прадстаўленне было паказана будаўнікам цырка.

### 50-ГОДДЗЕ «ПОЛЫМЯ»

Літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс «Полымя», орган Саюза пісьменнікаў БССР, адзначаў сваё 50-годдзе. Гэты штомесячнік — адно са старэйшых выданняў літаратурнай перыёдыкі ў Савецкім Саюзе. Журнал быў заснаваны ў снежні 1922 года.

З нагоды юбілею Прэзідыум Вярхоўнага Савета СССР узнагародзіў часопіс «Полымя» ордэнам «Знак Пашаны».

### ТЫДЗЕНЬ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ

У рамках святкавання 50-годдзя СССР адбыўся на Чарнігаўшчыне Тыдзень беларускай літаратуры. У Чарнігаве беларуская дэлегацыя ўсклала кветкі на магілу невядомага салдата. (вр)



## ПОЛЬШЧА

### ПАСЯДЖЭННЕ ПАЛІТБЮРО

18 снежня адбылося пасяджэнне Палітбюро ЦК ПАРП, на якім былі разгледжаны і прыняты асноўныя напрамкі тэхнічнай палітыкі ў нашай краіне. Палітбюро зрабіла ацэнку гаспадарчай сітуацыі краіны за мінулыя 11 месяцаў і выканання задач Нацыянальнага гаспадарчага плана за 1972 год. Паводле ўступнай ацэнкі, план за 1972 год будзе перавыкананы. Палітбюро дало адмоўную ацэнку выступаючым недахопам у некаторых галінах нашай нацыянальнай гаспадаркі.

На заканчэнне пасяджэння Палітбюро ЦК ПАРП знаёмілася з інфармацыяй міністра замежных спраў аб візіце ў Мангольскую Народную Рэспубліку.

### ПЛЕНАРНЫЯ ПАСЯДЖЭННІ ВК ПАРП

Пленарныя пасяджэнні ваяводскіх камітэтаў ПАРП адбыліся амаль ва ўсіх ваяводствах нашай краіны.

У Вроцлаве пленум прысвячаўся задачам прамысловасці і будаўніцтва ў грамадска-гаспадарчым развіцці Ніжняга Шлёнска ў 1973 годзе.

У Кельцах пасяджэнне ВК ПАРП прысвячалася лепшаму, чым дагэтуль, выкарыстанню прадукцыйных здольнасцей у прамысловасці Келеччыны.

У Зялёнай Гуры ВК ПАРП разгледзеў праблему павелічэння актыўнасці і дысцыпліны любускай партыйнай арганізацыі, што неабходна для выканання задач, вынікаючых з праграмы VI з'езду партыі.

Пленарныя пасяджэнні Ваяводскіх камітэтаў ПАРП адбыліся яшчэ ў Варшаве, Лодзі, Любліне, Кашаліне і Шчэціне. Усе яны прысвячаліся выбраным праблемам, якія з'яўляюцца найбольш істотнымі для таго ці іншага рэгіёну і ўсяе краіны.

### ДЭЛЕГАЦЫЯ ПОЛЬШЧЫ Ў МАСКВЕ

У сувязі са святкаваннем 50-ай гадавіны СССР у Маскве прабывала польская партыйна-ўрадавая дэлегацыя на чале з Э. Геркам. І сакратар ЦК ПАРП выступіў з прамовай на ўрачыстым пасяджэнні ў Крамлі. Наша дэлегацыя ў час пабыўкі ў Савецкім Саюзе паклала вянкі ля Маўзалея Леніна і на Магіле невядомага салдата.

### ЦЭНТРАЛЬНАЯ АКАДЭМІЯ З НАГОДЫ 50-ГОДДЗЯ СССР

З нагоды святкавання залатога юбілею Краіны Саветаў у Вялікім тэатры ў Варшаве адбылася цэнтральная акадэмія, у якой прынялі ўдзел прадстаўнікі найвышэйшых партыйных і дзяржаўных улад, а таксама партыйная дэлегацыя з СССР. На акадэміі з прамовамі выступілі старшыня Рады Міністраў П. Ярашэвіч і член Палітбюро ЦК КПСС В. Грышын.

Акадэмія закончылася спецыяльна падрыхтаванай да гэтай урачыстасці багатай мастацкай праграмай.

### СПАЛУЧЭННЕ

З днём 1 студзеня 1973 года РСВ «Прэса» будзе спалучана з «Рухам» і «Кніжкай і ведамі» і прыме назву РСВ «Прэса — Кніжка — Рух».

Старшынёю РСВ «Прэса — Кніжка — Рух» выбраны С. Майкоўскі, яго намеснікамі В. Бэк, Я. Карпінскі, Э. Круль і Б. Стэмпень. (ця)



## ВАЯВОДСТВА

### САРДЭЧНЫЯ ВІНШАВАННІ

У дні залатога юбілею паўстагоддзя ўтварэння СССР І сакратар ВК ПАРП З. Куроўскі і старшыня Прэзідыума ВРН З. Спрыха ад імя Ваяводскага камітэта партыі і Прэзідыума ВРН у Беластоку выслалі святочныя сардэчныя віншаванні Цэнтральнаму Камітэту Камуністычнай партыі Літвы, Савету Міністраў Літоўскай ССР, а таксама Абласному камітэту Камуністычнай партыі Беларусі і Абласному савету дэпутатаў працоўных у Гродне. «Братэрскія адносіны, якія звязваюць нашы краіны і размешчаныя па-суседску ваяводствы, — гаворыцца ў віншаваннях, — прынеслі неацэнімую палітычную і гаспадарчую карысць, а пры гэтым узмоцнілі вузы дружбы паміж польскім народам і народамі СССР».

У адказ на гэтыя віншаванні І сакратар Гродзенскага абласнога камітэта КП Беларусі Л. Кляцкоў ад імя Гродзенскага абкома партыі падзякаваў за віншаванні, дадаючы, што працоўныя Гродзеншчыны перакананы ў тым, што дружба паміж суседнімі ваяводствамі будзе расці і ўмацоўвацца.

### УРАЧЫСТЫ КАНЦЭРТ

У тэатры імя А. Вянгеркі ў Беластоку адбыўся ўрачысты канцэрт, прысвечаны 50-годдзю Краіны Саветаў. На ўрачыстым канцэрце прысутнічалі прадстаўнікі партыйных і адміністрацыйных улад ваяводства — члены Экзекутывы ВК ПАРП з І сакратаром З. Куроўскім, члены Прэзідыума ВРН са старшынёю З. Спрыхам, прадстаўнікі палітычных стронніцтваў, маладзёжных арганізацый, прадпрыемстваў і ўстаноў.

З дакладам аб дасягненнях СССР, аб значэнні стварэння СССР для свету і для Польшчы выступіў сакратар ВК ПАРП Я. Златажынскі.

### КАНСУЛЬТАЦЫЙНЫЯ ГРУПЫ

Пры ВК партыі ў Беластоку створаны кансультацыйныя групы рабочых і сялян. У склад кансультацыйных груп уваходзяць найлепшыя прадстаўнікі галоўных грамадска-прафесіянальных груп. Створаны яны для непасрэднага кантакту з людзьмі працы, каб лепш ведаць іх думкі і ўвагі, а потым выкарыстоўваць іх прапановы ў канкрэтнай гаспадарчай дзейнасці. Задача кансультацыйных груп — дапамагаць ВК партыі ў вырашэнні найважнейшых пытанняў грамадска-гаспадарчага развіцця нашага ваяводства.

### МАЛАДЗЁЖНЫ БУДЫНАК

У Беластоку аддадзены ў карыстанне першы жылы дом, пабудаваны беластоцкай жыллёвай спулдзельняй пад патранатам ЗМС. Маладыя людзі, члены ЗМС, пад наглядам спецыялістаў самі пабудавалі сабе дом. Напярэдадні новага года першыя 45 членаў ЗМС атрымалі ключы ад новых кватэр.

### УЗНАГАРОДЫ ДЛЯ НАСТАЎНІКАЎ

За выключныя вынікі ў педагагічнай працы 323 настаўнікі нашага ваяводства атрымалі высокія ўзнагароды міністра асветы і выхавання. Індывідуальныя ўзнагароды І ступені атрымалі 22 настаўнікі, а калектыўныя ўзнагароды І ступені атрымалі настаўнікі групы механічных школ у Лапах, падставовай школы № І у Моньках, Дома культуры для дзяцей і моладзі ў Сувалках і падствовай школы № 3 у Бельску. (яч)

## TELEWIZJA WARSZAWA

**Niedziela 31.XII.**

8.55 Program dnia. 9.00 Dla młodych widzów: „Nieuchwytni mściciele" — film fab. radz. cz. I. 10.15 „W obiektywie". 10.45 „W kręgu mistrzów sztuki" — „Malarz i modelka". 11.20 „Jać mam serce do Ciebie..." (Pieśni biesiadne i miłosne XVII wieku). 12.00 „Przemiany". 12.30 „Pióropusze i ostrogi" — program St. Szwarc-Bronikowskiego' 13.30 Dla młodych widzów: XXVI Trójmecz Harcerski. 14.30 „W 80 dni dookoła świata" — film fab. ang. 17.15 „Pojedynek" — teleturniej — runda II. 17.45 „Pan Twardowski" — film baletowy. 18.30 Program rozrywkowy. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 Przemówienie Noworoczne. 20.25 Polska muzyka taneczna. 21.10 „Torreador" — film fab. USA („W starym kinie"). 22.10 „W noc Sylwestrową". W programie m. in. Mała Scena Rozrywki. „Dla tych, co pracują", „Łódź w programie sylwestrowym", „Melodie Wielkiego Ekranu", Ekspres nr. 17", Alfabet Rozrywki" — „Toast Noworoczny", „Wieczór z Diahann Carroll",

**Poniedziałek 1.I.1973**

8.55 Program dnia. 9.00 „Nowe przygody nieuchwytnych" — film fab. radz. cz. II. 10.20 „Przeżyjmy to jeszcze raz" — przegląd wydarzeń sportowych roku 1972. 11.35 Dziennik. 11.55 „Charaktery': — rep. film. (I). 12.15 Koncert Noworoczny z Wiednia. 13.20 „Charaktery" — rep. film. (II). 13.30 ,Kraków mało znany" („Ze starego kalendarza"). 14.00 Konkurs 4-ch skoczni z Garmisch Partenkirchen (II konkurs skoków). 15.30 ,Krakowiacy i górale" — opera. 16.35 „Charaktery" — rep. film. (III). 16.45 „Jak rozpętałem II wojnę światową" — film fab. pol. cz. III. 17.55 „Charaktery" — rep. film. (IV). 18.10 „Nikt — tylko Ty". 19.00 „Charaktery" — rep. film. (V). 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 „Ogień" — film TVP („Chłopi") odc. VI. 21.10 Teatr TV: W. Hugo — Ruy Blas". 22.30 Magazyn sportowy. 22.55 „Dzisiaj: Adriano Celentano" — program rozr. wł.

**Wtorek 2.I.**

9.00 TELEFERIE: „Niezwykły orzeł" — film W. Disney'a. 10.10 „Ogień" — film TVP („Chłopi"). 16.05 Program dnia. 16.10 „Oferty". 16.30 Dziennik. 16.40 Program dla młodzieży. 18.10 „Ziemia ognia" — film TVP i APN. 18.40 „Pożyteczne związki" — program wiejski. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Mały" — film fab. pol. 21.30 „Raport z fabryki samochodów małolitrażowych". 22.00 Dziennik. Wiadomości sportowe. 22.25 „Alice i Ellen" — program rozr. franc.

**Środa 3.I.**

9.00 TELEFERIE: „Kapryśna charcica" — film W. Disney'a. 9.55 „Lawina" — film fab. radz. 12.25 Międzynarodowy konkurs skoków narciarskich. Turniej 4-ch skoczni (Innsbruck). 15.35 i 23.00 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 II TV Festiwal Widowisk Lalkowych dla Dzieci: J. Wilkowski — „Tymoteusz Rymcimci". 17.35 „Informacje-Towary-Propozycje". 17.55 „Dzisiejszy Kazachstan" — film dok. TV Radz. 18.25 TV Kurier Warszawski. 18.45 „Postawy". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 Studio 63: M. Żuławski — „Opowieści mojej żony". 20.20 „Książę Rakoczy" — film franc. („Słynne ucieczki"). 21.25 „Świat i Polska". 22.00 Wiadomości sportowe. Sprawozdanie z turnieju 4-ch skoczni w Innsbrucku. 22.30 Dziennik.

**Czwartek 4.I.**

9.00 TELEFERIE: „Mały zagubiony pies" — film W. Disney'a. 9.55 „Książę Rakoczy" — film franc. („Słynne ucieczki"). 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 II TV Festiwal Widowisk Lalkowych dla Dzieci: I. Pikiel — „Ali-Baba i czterdziestu zbójców". 17.45 PKF. 17.55 „ZSRR —50". 19.10 „Przypominamy, radzimy". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Droga w świetle księżyca" — film fab. TVP. 21.10 „Czy ci nie żal..." — rep. film. 21.55 Spotkanie ze Stenią Kozłowską. 22.25 Dziennik. Wiadomości sportowe.

**Piątek 5.I.**

9.00 TELEFERIE: „Ryś Wahoo" — film W. Disney'a. 10.00 „Niezdolny do służby liniowej" — film fab. radz. 15.20 i 23.10 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Rysunek Techniczny. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 II TV Festiwal Widowisk Lalkowych dla Dzieci: J. Wilkowski — „Tymoteusz Rymcimci". 17.35 — „Nie tylko dla pań". 17.55 „Gramy o telewizor". 18.20 TV Kurier Mazowiecki. 18.40 ,Turystyka i wypoczynek". 18.50 Magazyn Medyczny. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 „Cena przyjaźni" — nowela film. czechosł. 20.50 Panorama Tygodnia. 21.30 Teatr TV: J. Makowiecki i O. Missuna — „Kto winien" odc. II („Proszę wstać, sąd idzie"). 22.40 Dziennik. Wiadomości sportowe.

**Sobota 6.I.**

9.00 TELEFERIE: „Concho" — film W. Disney'a 10.10 „Kasia Ballou" — film fab. USA. 12.25. Międzynarodowy konkurs skoków narciarskich. Turniej 4-ch skoczni (Bischofshofen). 15.25 Program dnia. 15.30 Program I proponuje. 16.30 Dziennik. 16.40 II TV Festiwal Widowisk Lalkowych dla Dzieci: A. J. Afanasjew — „Czarodziejski młyn". 17.50 „Z kamerą wśród zwierząt". 18.35 „Godzina Orfeusza". 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.15 „Kasia Ballou" — film fab. USA. 21.50 Dziennik. 22.10 „Interklub z NRD". 23.00 Wiadomości sportowe. Sprawozdanie z Turnieju 4-ch skoczni (Bischofshofen).

## ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek, 29 grudnia**

8.15 Film fab. 9.30 Filmy dokument. 10.00 Koncert. 13.55 Program dnia. 14.30 Reportaż z wystawy. 17.25. Koncert. 19.00 Czas. 19.30 Spotkania teatralne. 21.10 Zapraszamy na wieczorek.

**Sobota, 30 grudnia**

7.00 Program dnia. 8.00 Film dokument. 11.20 Film animowany. 12.10 Film dokument. „Zwycięstwo w Monachium". 13.40 Film animowany — opera. 15.15 Festiwal „Zima rosyjska". 16.10 Film dokument. 17.10 Turniej TV. 17.40 Film fab. 19.30 Koncert. Transmisja z Pałacu Zjazdów.

**Niedziela, 31 grudnia**

7.00 Program dnia. 9.00 Film animowany dla dzieci. 11.45 Dla żołnierzy. 12.15 Film fab. 13.40 Film dokument. 14.20 Spotkania muzyczne. 15.00 Klub filmowy. 16.10 Film muzyczny. 17.00 Koncert animowany. 17.40 Film fab. 19.30 Film. fab. 20.40 Teatr miniatur. 21.40 Film dokument. 22.05 Noworoczny „Płomyk".




# ВЕДАЮЦЬ І ЛЮБЯЦЬ...

Ад 10 да 23 лістапада 1972 года прабываў у Польшчы па запрашэнню Саюза польскіх пісьменнікаў намеснік старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі Анатолій Грачанікаў. Ён падзяліўся сваімі ўражаннямі з Польшчы і сваімі творчымі планамі.

«Ніва»: Прашу Вас як члена дэлегацыі, якая наведала Польшчу, падзяліцца з чытачамі «Нівы» сваімі ўражаннямі аб прабыванні ў нашай краіне.

А. Грачанікаў: Так склалася, што я дагэтуль не меў магчымасці наведаць Польскую Народную Рэспубліку. Я з хваляваннем ехаў у краіну, пра якую многа чуў і ў якой прагнуў пабываць. Прыехаў я як член дэлегацыі савецкіх пісьменнікаў, у якой знаходзіліся адказны сакратар Саюза пісьменнікаў Украіны Іван Салдаценка, загадчык замежнага аддзела Саюза пісьменнікаў СССР Віктар Барысаў і я. Мэтай нашага прыезду было ўмацаванне традыцыйных ужо кантактаў савецкіх пісьменнікаў з пісьменнікамі Польскай Народнай Рэспублікі.

Мы пазнаёміліся з Варшавай, апрача гэтага, асабіста пазнаёміліся з многімі пісьменнікамі, якіх дагэтуль ведалі толькі па іх кніжках. Сярод гэтых пісьменнікаў хацелася б назваць перакладчыкаў беларускай літаратуры Левіна і Поляка.

Асабліва цікавай і хвалюючай для нас была сустрэча ў Лодзі — горадзе, вядомым сваімі рэвалюцыйнымі традыцыямі з часоў царскай імперыі і міжваеннага перыяду. І сам горад, і яго моладзь пакінулі ў нас незабыўныя ўражанні.

Наступным горадам у нашым падарожжы па Польшчы былі Кельцы. У гэтым горадзе мы сустрэліся з рабочай і вучнёўскай моладдзю, з прадстаўнікамі партыйных і адміністрацыйных улад, з супрацоўнікамі навуковых устаноў і бібліятэк. Аўтарскія сустрэчы, якія адбыліся ў механічным і будаўнічым тэхнікумах, а таксама ў Вышэйшай настаўніцкай і Мастацкай школах назаўсёды застануцца ў нашых сэрцах. Характар пытанняў з боку ўдзельнікаў сустрэч, іх зацікаўленасць праблемамі развіцця беларускай, украінскай і рускай літаратур сведчыць аб тым, што ў Польшчы ведаюць і любяць савецкую літаратуру.

Наступным пунктам нашага падарожжа быў Кракаў — горад цікавага гістарычнага лёсу, надзвычайнай архітэктуры і культурных традыцый. Мы бачылі начны і дзённы Кракаў, мы сустрэліся з яго людзьмі, мы схілілі галовы перад помнікам несмяротнаму Міцкевічу.

Н: Вы з'яўляецеся вядомым прадстаўніком маладой сучаснай паэзіі. Нашым слухачам будзе цікава даведацца аб вашай творчасці.

Г: Маладая сучасная паэзія працягвае лепшыя традыцыі, закладзеныя нашымі класікамі Купалам, Коласам, Багдановічам. Што датычыцца мяне, то я прыйшоў у літаратуру незвычайным шляхам. Пасля таго, як атрымаў адукацыю інжынера, я працаваў на заводзе, пасля ў маладзёжных арганізацыях. Вучыўся на літаратурных курсах у Маскве. Першыя мае вершы з'явіліся ў «Маладосці» ў 1960 годзе. Выйшлі мае кніжкі вершаў «Магістраль» і «Круглая плошча». Зараз выдавецтва «Мастацкая літаратура» рыхтуе мой новы паэтычны зборнік «Грыбная пара», які паявіцца на паліцах у 1973 годзе. Тэмай маёй паэзіі з'яўляецца сучасны чалавек у яго шматгранных сувязях з рэчаіснасцю. Гэта складаная тэма, на шляху да выяўлення якой ёсць у кожнага паэта свае здабыткі і свае выдаткі.

Н: Саюз пісьменнікаў Беларусі развівае практычнае супрацоўніцтва з польскімі пісьменнікамі. Якія вынікі гэтага супрацоўніцтва?

Г: Скажу толькі аб выніках гэтага супрацоўніцтва ў апошні перыяд. У Мінску выйшла «Анталогія паэтаў чырвонай Лодзі», у якую ўвайшло 50 аўтараў, пачынаючы ад Бранеўскага і Тувіма, а канчаючы маладымі сучаснымі паэтамі. Вершы многіх сучасных польскіх паэтаў друкавала таксама «Полымя». Лодзь у сваю чаргу выдала анталогію беларускай паэзіі «Беларускія вершы». Лодзінскае выдавецтва рыхтуе таксама да друку «Анталогію беларускага апавядання».

Н: Шкадуем, што Вы не паехалі на Беласточчыну. Дык можа захочаце перадаць чытачам «Нівы» некалькі слоў пажаданняў?



*Анатоль Грачанікаў у размове з польскай пісьменніцай Северынай Шмаглеўскай.*

Г: Я вельмі шкадую, што, наведаўшы Польшчу, не ўдалося мне пабываць на Беласточчыне і ў рэдакцыі «Нівы», якая карыстаецца вялікай цікавасцю ў Савецкай Беларусі. Газета асвятляе жыццё і Польшчы, і Беларусі і гэтым самым спрыяе ўмацаванню польска-савецкай дружбы. Нас цешыць, што ў Польшчы жыве і пульсуе беларускае слова. Хачу пажадаць беларусам у Польшчы як найлепшых поспехаў у асабістым жыцці і ў працы над будовай сацыялізму.

*Гутарыў Алесь Барскі*

НА НІВЕ БГКТ

# СЯМ'Я МАНЦЮКОЎ З ДАЛЁКІХ МІКУЛІЧ

Пыталіся пра дарогу ў Мікулічы, а людзі ўсё адказвалі, што проста і яшчэ паказвалі рукой. Такой простай дарогай, мінуўшы Мілейчыцы, Рагачы, мы апынуліся ў Мікулічах.

Выгляд вуліцы нецікавы, але на ўпарадкаваных панадворках белыя бярозы і гэта выглядае прыгожа. За вёскай пачынаецца лес. Хату Манцюкоў знаходзім на канцы вёскі. Аказваецца, што гаварыць трэба прынамсі пра дзве хаты Манцюкоў, якія стаяць насупраць сябе. Новая хата належыць сыну Аляксандра і Насці Манцюк — Анатолію Манцюку. Стаіць яна на высокім падмурку, і асенняе сонца грае ў венецкіх вокнах. Уласнымі рукамі пабудаваў гэты дом Анатолій Манцюк, бо майстар ён, як кажуць, на ўсе рукі. З'яўляецца солтысам у вёсцы і вядзе інсемінацыйны пункт.



*Янка Манцюк — адзін з вялікай сям'і — старшыня гуртка БГКТ.*

*фота Цаф — Сянько*

У Аляксандра і Насці Манцюк шасцёра дзяцей. Усе ўжо павырасталі, але акрамя найстарэйшага Валодзі, які завандраваў далёка і ажаніўся ў Алецку, усе іншыя жывуць на месцы. Толік, як бачылі, ужо ажаніўся і ўстабілізаваўся ў роднай вёсцы. Трэці па старшынству Ваня і тры сястры Надзя, Вера і Марыя, яшчэ жывуць з бацькамі. Марыя нарадзілася толькі... праз 15 мінут за Верай. І таму абедзве падобныя, як кропля вады.

У гэтай вялікай сям'і амаль намацальна адчуваецца згода і дружба, жыццёвая энергія і працавітасць. Бацькі маладой шасцёркі Манцюкоў і самі яшчэ не старыя, але цяжкія пераправы на хвалях жыцця пакінулі на іх свой след. Анастасія — маці яшчэ круціцца, але Аляксандр — бацька цяжка хворы. Цела слабое, але розум ясны і, толькі пагаварыўшы з ім, бачым, як разумна гэты чалавек апанаваў нялёгкую філасофію жыцця, якая памагала яму і памагае пражыць.

Асабліва цяжкім быў для іх перыяд акупацыі. А размова пра гэта пачалася ад таго, што маці-Насця, называючы імёны сваіх дзяцей, сказала: «Мы маем яшчэ аднаго сына. Называецца Віцька».

Віцька ў пачатку вайны папаў у нямецкі палон і ўцёк адтуль. У сваёй цярністай дарозе на ўсход трапіў на Мікулічы і на Манцюкоў. Прытулілі яго да сям'і. Гаварыў «мамаша» і быў сынам. Найперш хаваўся на гаспадарцы, а як мілейчыцкае гестапа загадала выдаць усіх чужых, Віцьку перасялілі ў лес. Новыя бацькі насілі яму туды ежу і вопратку. У хату заходзіў рэдка. Часы былі цяжкія і небяспечныя. Тады ж забрала гестапа і Аляксандра Манцюка. Вёска злажыла подпісы на просьбе, каб выпусцілі яго. Выпусцілі, але адабралі здароўе. З таго часу і сам Аляксандр Манцюк ужо не начаваў у хаце. Вораг з кожным днём станавіўся больш лютым. Віцька пражыў да прыходу фронту і, развітаўшыся з новымі бацькамі, пайшоў далей. «Жыве цяпер добра наш Віцька», — кажа Насця Манцюк.

Малодшы сын і дочкі Манцюкоў нарадзіліся пасля вызвалення, і іхнюю гісторыю інакш раскажам. Маладыя Манцюкі інтрыгуюць сваёй актыўнасцю ў вёсцы і ваколіцы. Гэта людзі іншага чыну, які называецца працай і грамадскай дзейнасцю. Працы многа. Раз — усе працуюць на немалой гаспадарцы, а яшчэ — Ваня, Надзя — у прэзідыуме грамадскай рады ў Мілейчыцах, а Вера прадаўшчыцай у склепе ў Рагачах. Два — усе працуюць на культурнай ніве БГКТ. Вера і Марыя займаюцца песняй. Значыць, не толькі спяваюць яе, але збіраюць песні, ствараючы ўласныя спеўнікі. Адзін такі спеўнік маці, знайшоўшы, паказвала. Вера і Марыя прымалі ўдзел у аглядзе на беларускую песню і дайшлі аж да цэнтральнага агляду ў Беластоку. У хаце вісяць мандаліны, усе маладыя іграюць на іх. Хата Манцюкоў часта звініць песняй. Хопіць, каб Вера і Марыся, як кажа бацька, «сталі пець, то ўсе збіраюцца».

З Ванем пазнаёмілася як са старшынёй гуртка БГКТ у Мікулічах. Хацелася шырэй пагаварыць аб працы гэтага гуртка і яго планах. Ваня прызнаўся, што гурток яшчэ малады і працу яго яны ў бліжэйшы час намецяць. А людзі тутэйшыя моцна зацікаўлены ў арганізацыі клубнай працы. Новае памяшканне для яе ёсць у новай рамізе ў Рагачах. Вялікі пакой стаіць яшчэ пусты.

Пра патрэбу арганізаванай працы пачулі мы ў склепе, як наведалі Веру. Адна жанчына звярнулася да яе з прапановай: «Арганізуйце клуб». Чулі і ў радзе грамадскай, дзе Уладзімір Паўлючук з Рагачоў сказаў, што справа клуба стаяла на сходзе партыйнай арганізацыі ў Рагачах, якая мае звярнуцца па гэтаму поваду ў мясцовы ГС. Несумненна, пры такім жаданні ўсіх працаваць на культурнай ніве вынікі напэўна будуць добрыя. А ў будучым клубе і песня беларуская будзе напэўна спявацца шырока, і драмгурток паставіць не адну п'есу. Сілы маладыя ў гэтых вёсках ёсць. Як у Мікулічах, так і ў Рагачах не наракаюць на недахоп маладых і здольных людзей. Сям'я Манцюкоў — адна з многіх сем'яў сярод тутэйшага насельніцтва, якая праяўляе сардэчнасць і цеплыню ва ўзаемных адносінах і да госця з Беларускага таварыства ці «Нівы».

*Вера Лейчук*




*У глыбі Белавежскай пушчы. Вёска Буды Гайнаўскага павету. Фота — М. Гайдук*

# БЕЛАРУСІЯНА

№ 12 «Кантрастаў» — штомесячніка Беластоцкага таварыства культуры прысвечаны 50-ай гадавіне ўтварэння СССР. Матэрыялы гавораць аб цеснай дружбе і супрацоўніцтве паміж Польшчай і Савецкім Саюзам, аб удзеле палякаў у Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, ёсць успаміны аб другой сусветнай вайне, у тым ліку і аб вызваленні Беласточчыны.

Варта падкрэсліць артыкулы, звязаныя з Савецкай Беларуссю. І так, Мікалай Грыгорчук у публікацыі пад загалоўкам «Тры сустрэчы» расказвае аб пабыўцы настаўнікаў Беласточчыны ў 1972 годзе на Беларусі і арганізаванай для іх экскурсіі ў калгас імя М. Суворава ў Любанскім раёне, аб пабыўцы ў Хатыні — вёсцы, якую разам з людзьмі знішчылі немцы. Многа гаворыцца таксама ў гэтым артыкуле аб шчырасці і гасціннасці беларусаў, аб многіх іншых спатканнях.

У літаратурнай частцы месячніка шырока прадстаўлена беларуская літаратура. Надрукавана апавяданне Васіля Быкава «На возеры». Пераклад зрабіў Віктар Рудчык.

«Кантрасты» знаёмяць таксама чытачоў з другім таленавітым пісьменнікам Савецкай Беларусі — Андрэем Макаёнкам. Змешчаны фрагменты трагікамедыі Андрэя Макаёнка «Трыбунал» у перакладзе Леха Пятроўскага. Як ужо інфармавала «Ніва», з гэтай п'есай будзе выступаць беластоцкі драматычны тэатр імя А. Вянгеркі.

З беларускай паэзіі змешчаны ў «Кантрастах» верш Дануты Бічэль-Загнетавай, які пераклаў на польскую мову Тадэўш Хрусцялеўскі. (мх)

ПАЎГОДА ПАСЛЯ ПАЖАРУ




Прайшло вось паўгода ад таго суднага дня для вёскі Вілянова ў Сямяціцкім павеце, калі над ёю заспяваў сваю злавесную песню «чырвоны певень».

Як жывуць пагарэльцы з Вілянова, як уладкаваліся яны на зіму?

Найперш прашу, каб адказаў на гэтыя пытанні старшыня прэзідыума ПРН у Сямяцічах Аляксандр Іванюк.

— Мне здаецца, — гаворыць ён, — што мы як прадстаўнікі народнай улады зрабілі ўсё, што маглі і што трэба было зрабіць, каб магчыма найбольш памагчы пагарэльцам з гэтай вёскі. Я сам некалькі разоў ездзіў у гэтую вёску, каб асабіста паглядзець, як ажыццяўляецца апрацаваны намі план дапамогі пацярпеўшым. ПЗУ хутка і спраўна выплаціў рэкампенсату за застрахаваную маёмасць, аддзел архітэктуры без ніякіх лішніх фармальнасцей выдаваў дазволы на адбудову пагарэлых будынкаў, гандлёвыя прадпрыемствы абавязаны былі ў першую чаргу забяспечыць будаўлянымі матэрыяламі тых гаспадароў, у якіх згарэлі будынкі. Калі, для прыкладу, не хапіла гваздзей, мы пасылалі самаход за імі аж у Беласток. Тым пагарэльцам, у якіх пайшло з дымам усё хатняе абсталяванне, ежа і вопратка, за грошы з фонду грамадскай дапамогі мы адразу ж даставілі харчы і адзежу.

Пажар у Вілянове пачаўся з таго боку, дзе дарога вядзе ў Клюковічы. Тут ужо свежым дрэвам і новенькай чарапіцай ганарацца хлявы і клуні.

Заходжу на панадворак солтыса Уладзіміра Ваўрэнюка. Ён адзін з тых, хто найбольш пацярпеў у час пажару.

— У мяне згарэлі хлявы, клуня, конь, некалькі штук свіней, матацыкл ВСК, электрычны рухавік і іншыя сельскагаспадарчыя прылады, — кажа ён.

— Якую дапамогу атрымалі вы ад дзяржавы?

— Даволі вялікую, — адказвае ён. — Без гэтай дапамогі не змог бы я адбудавацца.

Аграмадная клуня ў яго ўжо пад чарапіцай. Яна намнога большая ад старой, згарэўшай, якая стаяла пад саламянай страхой. Адбудаваны таксама і той хлеў з пустакоў, у якім стаяў няшчасны конь.

— А каня я ўжо купіў другога, — гаворыць солтыс. — Толькі дарагі ён страшэнна. Прыйшлося далажыць яшчэ столькі ж да таго, што я атрымаў ад ПЗУ за згарэўшага.

— А іншыя пагарэльцы як сабе даюць рады?

— Ніхто пад голым небам ужо не жыве — гаворыць солтыс. — Вось хаця б гэтая старая Акуліна, якая чуць сама не згарэла ў сваёй хаце. Атрымала ад ПЗУ 67 тысяч злотых рэкампенсаты, купіла сабе гатовы будынак, які прыстасавала для сваіх скромных патрэб і хапіла яшчэ грошай на хлеў.

Мураванку Генрыка Лэндскага відаць здалёк. Тады ў чэрвені засталіся ад яе адны толькі закопчаныя сцены. Цяпер яна ўжо пад дахам, за шыбамі відаць кветкі і новенькія фіранкі — неадлучны прызнак жыцця. Сам гаспадар яшчэ ў лесе, ён працуе ў Нурэцкім надлясніцтве.

— От, неяк з горам, з бядою адбудаваліся, — кажа мне яго жонка. — ПЗУ выплаціла нам 174 тысячы рэкампенсаты, надлясніцтва дало бясплатна дрэва на будову, ад прафсаюзаў муж атрымаў сем тысяч злотых беззваротнай пазыкі...

— Толькі, — працягвае жанчына, — заплацілі нам за адну хату, а згарэла ж і другая, старая. Ці пісаць, каб яшчэ нам заплацілі за другую хату?

І солтыс Ваўрэнюк таксама наракае, што яму не заплацілі за матацыкл, бо не меў застрахавання тыпу «аўтакаска».

— Што ты пра гэта думаеш? — пытаю ў дырэктара мясцовай школы Анатоля Мартыновіча, які з'яўляецца душой грамадскага жыцця ў Вілянове.

— Асабліва нельга мець прэтэнзій да ўлад. З іх боку дапамога была вялікая.

Мартыновіч запрашае мяне ў клуб. Ён багата абсталяваны.

— Сёння ў праграме заняткаў — савецкі фільм, — інфармуе маладзенькая загадчыца клуба. — Гэта з нагоды 50-годдзя Савецкага Саюза.

Аб знамянальным юбілеі ўсходніх суседзяў напамінаюць таксама дэкаратыўныя элементы, якімі ўпрыгожаны клуб.

Дык Вілянова перамагло стыхію. Яго жыхары вярнуліся да поўнага жыцця.

*Віктар Рудчык*

## У спулдзельцаў з Кандратак

Як вядома, спажывецкіх прадуктаў трэба нам усё больш. А на Беласточчыне высокаўраджайнай зямлі малавата. На кепскай зямлі сяляне не заўсёды патрапяць добра гаспадарыць і, калі гэта не дае ніякіх эфектаў, адракаюцца ад яе. Такім чынам ствараюцца нявыкарыстаныя зямельныя рэзервы і прыбывае нам аблогаў, якія пераймае дзяржава, утвараючы дзяржаўны фонд зямлі (ПФЗ). Пакінутыя зямельныя ўгоддзі, так званую «нічыю зямлю» загаспадарваюць ПГР-ы, МБМ-ы, кааператывы.

Больш 200 гектараў пакінутай зямлі загаспадарыў кааператыў з Кандратак Беластоцкага павету. Раней заснаваўся тут філіял дарожкаўскага кааператыва, а зараз кандрацкі кааператыў пачаў самастойную дзейнасць. Сёлета спулдзельцы сабралі даволі высокі ўраджай збожжавых культур. Прадалі яны дзяржаве 180 тон жыта. Сеялі яны таксама авёс, лубін і сырадэлю. Члены спулдзельні гадуюць 15 тысяч курэй і прадаюць іх, калі тыя праз 10 тыдняў маюць ужо адпаведную вагу.

Кааператыў налічвае 25 членаў (пераважна з Кандратак і па некалькі асоб з суседніх вёсак Ганчароў і Ялоўкі). У яго распараджэнні знаходзіцца пяць трактараў з камплектамі падвесных машын, камбайнам «Вістуляй» і іншымі сельскагаспадарчымі машынамі агульнай вартасці 1,5 мільёна злотых. На кааператыўным пляцы бачылі мы, як растуць сцены шопкі для авечак, якіх ёсць 30 штук, а будзе 500. З боку брайлерні ідзе пабудова сацыяльнага памяшкання і складу на пашы.

Але гэта далёка не ўсё, што будзе тут пабудавана ў недалёкай будучыні. Яшчэ да 1975 года будуць пабудаваны жылыя дамы для сем'яў спулдзельцаў, святліца, абора на 90 свінаматак, аўчарня на 500 авечак, гаражы, рамонтныя варштаты. Ужо ў наступным годзе спулдзельцы намераны сеяць на сваіх сенажацях шляхетныя сарты траў. Задумалі яны таксама развесці рыбагадоўлю ў ставах. Усе члены кааператыва задаволены працай і даволі высокімі заробкамі. А вось калі б ніхто не захацеў заняцца «нічыёй зямлёю», не было б гэтага. Не давалі б даходу пакінутыя аблогі.

*Я. Цялушэцкі*

### КЛУБ У КАМЕНІ

Жыхарам Каменя зайздросцяць суседнія вёскі клуба. Вялікая вёска Курашава не мае клуба, а ў Камені ёсць. Наракаюць курашаўцы на тое, што няма ў іх добрага арганізатара. А калі гавораць аб Камені, тады падкрэсліваюць, што там дружны народ, а перш за ўсё моладзь.

Давялося мне нядаўна наведаць клуб «Руху» ў Камені. Да ацэнкі курашаўцаў дадам я яшчэ адзін элемент. Не толькі дружныя там людзі, але і культурныя. Шануюць свой цэнтр культурнага жыцця, а загадчыца клуба Вера Сегень арганізуе ў ім пры дапамозе гуртка і аддзела БГКТ у Гайнаўцы цікавыя мерапрыемствы, сустрэчы з журналістамі «Нівы», беларускімі літаратарамі, на якія людзі заўсёды прыходзяць.

Тут кожны вечар ёсць шмат наведвальнікаў, і старэйшых і малодшых. У клубе цікавая дэкарацыя. Зараз у ім ёсць фотавыстаўка, прысвечаная дасягненням СССР. (мх)

### АЛІМПІЯДА СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧЫХ ВЕДАЎ

У павятовых алімпіядах сельскагаспадарчых ведаў, якія прайшлі ў канцы лістапада ў Гайнаўскім і Бельскім паветах, прымалі ўдзел вучні сельскагаспадарчых школ, удзельнікі сельскагаспадарчых курсаў, а таксама маладыя жыхары вёсак, якія самастойна вядуць гаспадарку.

У павятовых элімінацыях у Гайнаўскім павеце прымала ўдзел каля 50 асоб. Найлепш падрыхтаваліся Валянціна Аўласюк з Новаберазова, Мікалай Саковіч з Клейнік, Анатоль Харытанюк і Мікалай Нестэрук з Барка.

У Бельскім павеце найвышэйшую ацэнку атрымалі маладыя гаспадары Тадэуш Галэмбецкі з Галёнак, Зыгмунт Карпесюк з Тапчэва і Генрык Кавердэй з Лубіна Касцельнага. (ця)

## Перамаглі ляўкоўскія школьнікі

У кастрычніку 1972 года адбыліся спаборніцтвы школьных спартыўных каманд у катэгорыі пачатковых школ на кубак старшыні Рады аддзела ВСС «Сполэм» у Гайнаўцы. У спаборніцтвах прымалі ўдзел многія школьныя каманды з цэлага павету, між іншым, са школ у Койлах, Гайнаўцы, Белавежы. Перамагла школьная спартыўная каманда з Старога Ляўкова ў наступным складзе: Марыя餐餐 Каролька, Яўгенія Карпюк, Аля Рэент, Ірэна Каролька, Ірэна Бандарук і Яўген Драўноўскі.

Варта адзначыць, што заняткі ў стараляўкоўскай школе вядзе малады настаўнік Яўген Валкавыцкі. Школа добра забяспечана спартыўнымі прыладамі. Члены СКС маюць нават спартыўныя касцюмы.

*Тэкст і фота (ця)*




*Пераможцы на кубак старшыні Рады аддзела ВСС у Гайнаўцы.*

### ГРАМАДСКІ ЧЫН ЖЫХАРОЎ ВАСІЛЬКОВА

Сёлета жыхары Васількова Беластоцкага павету выканалі грамадскага чыну на суму каля 400 тысяч злотых. Найбольш працавалі пры пабудове дарог, спалучаючых Васількаў з Дамброўкамі, Навадворцамі і Панеркамі. Самі яны абсталявалі дзіцячую пляцоўку для гульняў пры жыллёвым кааператыве, адрамантавалі спартыўнае стрэльбішча, памалявалі агароджу прадшколля, паклалі бетон на школьным пляцы. Асабліва многа папрацавалі грамадскім чынам члены мясцовай супрацьпажарнай каманды. Звезлі яны цэглу на пляц будовы новай стражацкай рамізы, адрамантавалі дах у старой рамізе і памалявалі ў ёй клубны зал. (ця)




## Факты гераічнага мінулага

Адкрыццё ў гэтым годзе Музея гісторыі рэвалюцыйнага руху ў Гайнаўцы з'яўляецца знамянальнай падзеяй у высакароднай справе ўшанавання сучаснікамі яе гераічнага мінулага. Асабліва ж дастойны памяці рабочы клас Гайнаўкі, які «сваёй свядомай рэвалюцыйнай дзейнасцю, непрымірымасцю ў барацьбе з буржуазіяй, вялікай улюбёнасцю да свабоды і грамадскай справядлівасці заслужыў, што гэты горад здабыў сабе ганаровую назву «Чырвонай Гайнаўкі», — канстатуецца ва ўводным слове да «Праваднікa-інфарматара па Музеі гісторыі рэвалюцыйнага руху ў Гайнаўцы». — Тут, на Гайнаўскай зямлі, выкоўваўся ў штодзённых класавых змаганнях пралетарскі інтэрнацыяналізм. Тут, у брацкай дружбе развіваўся і мацнеў саюз польскіх і савецкіх партызанаў у барацьбе з ненавісным супольным ворагам. Тут таксама знаходзілася кузня палітычных і грамадскіх кадр, з якой выйшла вялікая колькасць дзеячоў, узмоцніўшых маладыя органы народнай улады найлепшымі, найболей загартаванымі і адданымі людзьмі для супольнай справы — сацыялізму».

«Праваднік-інфарматар па Музеі гісторыі рэвалюцыйнага руху ў Гайнаўцы»*) выйшаў з друку аднaчасова з адкрыццём музея і належыць пяру вядомага на Беласточчыне збіральніка і даследчыка матэрыялаў рэвалюцыйнага мінулага рэгіёну і аўтара шэрагу каштоўных публікацый — Барыса Нікіцюка.

Перш за ўсё выданне прадстаўляе аддзелы экспазіцый музея, сцэнарый якіх апрацавалі мгр Б. Нікіцюк і мгр З. Тамчонак. У музейных зборах знаходзяцца матэрыялы, якія ахопліваюць амаль 150-гадовую гісторыю Гайнаўшчыны — адкрываюцца яны паказам аперацый паўстанцкіх атрадаў у 1831 годзе ў раёне Белавежскай пушчы і заключае іх аддзел, прысвечаны сённяшняму дню Гайнаўкі як вядомага ва ўсёй нашай краіне цэнтра дрэваапрацоўчай прамысловасці і дасягненням у развіцці сельскай гаспадаркі, асветы і культуры ў Гайнаўскім павеце.

Аўтар «Праваднікa» не толькі паказвае матэрыялы, сабраныя ў музеі, але і падае гістарычныя факты, якія да гэтага часу не былі аб'ектам вывучэння. Дзякуючы гэтаму належная ўвага адведзена гайнаўчанам — удзельнікам Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі і грамадзянскай вайны. Сярод іх былі і Якуб Мартынюк з Новаберазова — артылерыст са славутага браняносца «Аўрора», і дзесяткі салдат і камандзіраў Чырвонай Арміі, што змагаліся на шматлікіх франтах у абарону маладой Савецкай улады.

Разам з узнікненнем драўніннай прамысловасці ў Гайнаўцы на арэну класавых баёў у міжваеннай Польшчы выступіў гайнаўскі пралетарыят, змаганнямі якога кіравала Камуністычная партыя Заходняй Беларусі. У гайнаўскім рабочым асяроддзі дзейнічалі таксама Польская сацыялістычная партыя і класавыя прафесіянальныя саюзы. КПЗБ пашырыла сваю працу на ўвесь Гайнаўскі павет, і не было ў ім ніводнага мястэчка ці сяла, дзе б не вяла актыўнай работы мясцовая партыйная арганізацыя. У легальную прагрэсіўную арганізацыю Беларускую сялянска-рабочую грамаду, якою кіравала КПЗБ, уваходзіла ў былым Бельскім павеце (ён ахопліваў тады і цяперашнюю Гайнаўшчыну) каля 3 тысяч членаў. Барацьба працоўных супраць буржуазіі і санацыйнага ўраду была непрымірымай і крывавай: лілася кроў у часе разгрому паліцыяй павятовага з'езду «Грамады» ў Старым Беразове ў 1926 годзе і падалі забітыя рабочыя ў ходзе забастовак у Гайнаўцы.

Паўтара года стваральнай працы, авеянай жыватворчымі ідэямі пабудовы сацыялістычнага грамадства, у часе ўваходу Гайнаўшчыны ў склад Беларускай ССР былі раптоўна спынены гітлераўскім нашэсцем. Фашысты мячом і агнём імкнуліся абярнуць Гайнаўшчыну ў пустэчу, каб толькі зламаць у ёй партызанскі рух. Дзесяткі сёлаў і вёсак фашысты разграбілі, спалілі і зааралі, расстралялі тысячы жыхароў, сярод іх малалетак-дзяцей і дастойных старцаў, выгналі ў вечнае ярмо ў Нямеччыну, на паднявольную працу для фашысцкага Райху моладзь. Але Чырвоная Гайнаўшчына не скарылася — на гітлераўскі тэрор адказала збройнай барацьбой соцень партызанаў. Ішлі пад адхон дзесяткі паяздоў, гружаных ваеннай тэхнікай, гінулі сотні фашыстаў.

Калі ж у ліпені 1944 года на Гайнаўшчыну разам з Савецкай Арміяй і Войскам Польскім прыйшла свабода, гайнаўчане энергічна прыступілі да адбудовы свае зямлі з руін і папялішчаў. Неймаверна цяжка працавалі яны над закладкай асноў сацыялістычнага ладу — з рук рэакцыйнага падполля гінулі найлепшыя сыны Гайнаўшчыны, а полымя пажараў — няраз ахоплівала ўцалеўшыя ад фашысцкіх забойцаў вёскі. І зноў Чырвоная Гайнаўшчына не паддалася: выраслі ў ёй новыя фабрыкі і заводы, светлыя жылыя дамы, прыгожыя школы.

Рэкамендуючы чытачам «Праваднік-інфарматар па Музеі рэвалюцыйнага руху ў Гайнаўцы» для ўважнага прачытання і абавязковага наведання музея, аднaчасова не магу не выказаць свайго пераканання ў тым, што гэтае выданне павінна быць пачаткам шырокіх навуковых даследаванняў, якія ў выніку далі б грунтоўную манаграфію па гісторыі Гайнаўшчыны. Гераічнае мінулае Гайнаўскай зямлі дастойна такога выдання.

*Мікалай Гайдук*

*) Borys Nikitiuk, Przewodnik-Informator Muzeum Historii Ruchu Rewolucyjnego w Hajnówce, Гайнаўка 1972.

